*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года **№ 25 (612) 9 ЛІПЕНЯ 2003 г.**

30 чэрвеня 2003 г., Менск, Беларусь

**Прэзыдэнту Рэспублікі Беларусь
Аляксандру Лукашэнку,
Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь
Генадзю Навіцкаму,
Міністру адукацыі Рэспублікі Беларусь
Пятру Брыгадзіну,
Вярхоўнаму камісару па правах чалавека ААН,
у Камітэт па правах дзіцяці ААН (CRC),
у Камітэт па эканамічных, сацыяльных
і культурных правах ААН (CESCR),
у Дзіцячы фонд ААН (UNICEF),
у Арганізацыю ААН па пытаньнях адукацыі,
навукі і культуры (UNESCO),
у Парлямэнцкую Асамблею АБСЭ,
у Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах
чалавека АБСЭ**

## ЗАЯВА ПРАТЭСТУ

### Спыніць зьнішчэньне Ліцэя!

Мы, кіраўнікі няўрадавых арганізацыяў Беларусі, выказваем рашучы пратэст супраць ліквідацыі ўрадам Рэспублікі Беларусь Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй – адзіная ў Беларусі навучальная ўстанова ліцэйскага тыпу, дзе дзеці атрымліваюць адукацыю на беларускай мове. Ліцэй вядомы ў краіне і за яе межамі высокай якасьцю выкладаньня, пра што сьведчаць дасягненьні яго вучняў і выпускнікоў. Якасьць ліцэйскай адукацыі прызнаецца і кіраўніцтвам Міністэрства адукацыі.

Нягледзячы на гэта, пастановай ураду ад 25 чэрвеня і загадам Міністэрства адукацыі ад 26 чэрвеня прынятае рашэньне аб ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Тым самым разбураецца ўнікальны беларускамоўны навучальны асяродак: больш за 200 юнакоў і дзяўчат пазбаўляюцца адзінай магчымасьці вучыцца на роднай мове. Зьнішчаецца адзіная ў Беларусі сярэдняя навучальная ўстанова, дзе пасьпяхова прымяняліся новыя мэтодыкі і праграмы эўрапейскага ўзроўню.

Такія дзеяньні беларускіх уладаў парушаюць Закон аб мовах Рэспублікі Беларусь, Канвэнцыю аб правах дзіцяці, Міжнародны пакт аб эканамічных, сацыяльных і культурных правах.

Ліквідацыю ўрадам Беларусі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа мы расцэньваем, як працяг барацьбы з грамадзянскай супольнасьцю і пабудовы аўтарытарнага грамадзтва з неабмежаваным дэспатызмам аднай асобы. Ліквідацыя стаіць у адным шэрагу зь іншымі дзеяньнямі беларускага рэжыму за апошнія месяцы: ліквідацыя грамадзкіх аб'яднаньняў і прафсаюзаў, закрыцьцё газэт, незаконныя арышты і несправядлівыя суды грамадзкіх актывістаў у апошнія месяцы. Такія дзеяньні мы расцэньваем як сьвядомую палітыку беларускіх уладаў.

Ліквідацыя Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа – гэта бяспрэцэдэнтная па нахабству і цынізму акцыя. Дзеці-навучэнцы ліцэя сталіся ахвярай абвешчанага ўладамі змаганьня з усімі праявамі іншадумства ў працэсе "ўмацаваньня ідэалягічнай працы ў дзяржаве". У палітычных мэтах урад бессаромна парушае права дзяцей на атрыманьне адукацыі на роднай мове.

Гэтым крокам беларускі ўрад адкрыта супрацьпастаўляе сябе беларускаму грамадзтву.

У сувязі з выкладзеным мы заклікаем:

- прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, урад Рэспублікі Беларусь, міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь адмяніць рашэньне аб ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа;
- міждзяржаўныя арганізацыі ў межах сваіх магчымасьцяў паўплываць на ўрад Беларусі з мэтай прымусіць яго выконваць правы грамадзян Беларусі на атрыманьне адукацыі на беларускай мове.

**З павагай,**

**Волчак Алег Канстанцінавіч**, старшыня грамадскага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву";

**Літвіна Жана Міхайлаўна,** прэзідэнт ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў";

**Паганяйла Гары Пятровіч,** намеснік старшыні РГА "Беларускі Хельсінскі Камітэт";

**Карнеенка Віктар Мікалаевіч**, старшыня Гомельскага грамадскага аб'яднання "Грамадзянскія ініцыятывы";

**Васількоў Віталь Рыгоравіч,** дырэктар МГА "Кола сяброў";

**Танкачова А. Б.**, старшыня праўлення грамадскага аб'яднання "Незалежнае таварыства прававых даследванняў";

**Мілінкевіч Аляксандр**, старшыня Гарадзенскага абласнога грамадскага аб'яднання "Ратуша";

**Кулей Іна**, старшыня фонду "Наша Вежа";

**Мацкевіч Сяргей**, старшыня Рады Гарадскога грамадскага аб'яднання "Цэнтар Супольнасць", г. Менск;

**Кобаса Міраслаў**, сябар Праўлення Грамадскага аб'яднання "Фонд ім. Льва Сапегі"

**Ларыса Андросік**, старшыня Грамадскага аб'яднання "Дыярыюш"

**Алег Трусаў**, старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны".

# Фестываль сярэднявечнай культуры ў Нясвіжы




**Адзін з уездаў у Нясвіж**

3 і 4 ліпеня ў сэрцы Беларусі старажытным Нясвіжы прайшоў найбуйнейшы ва Ўсходняй Еўропе фестываль сярэднявечнай культуры, прымеркаваны да 780-годдзя горада Нясвіжа, што лічыцца ад 1223 года, у якім князь Юры Нясвіжскі прыняў удзел у бітве з манголамі Чынгісхана на Калцы.

У фестывалі прынялі ўдзел больш 40 рыцарскіх клубаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Латвіі, Чэхіі рознай скіраванасці. У дэфіляднай калоне налічвалася больш тысячы рыцараў, збраяносцаў, лучнікаў і прыгожых паненак. Акрамя рыцараў у фэсце ўзялі ўдзел многія мастацкія калектывы з шматлікіх краін свету, што спецыялізуюцца на творах сярэднявечнай музычнай, вакальнай і танцавальнай культуры. Былі рэпрэзантаваныя сярэднявечныя рамёствы, гандаль, кухня.

*(Працяг тэмы на ст. 3.)*




**Памятны знак у гонар фестываля сярэднявечнай культуры "Старадаўні Нясвіж" 3-4 ліпеня 2003 года, падараваны гораду Нясвіжу лідскім скульптарам Рычардам Грушам**

## *Віншуем з 60-годдзем*

Старшыня Гарадзенскай абласной арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алесь Міцюкевіч дасягнуў паважнага 60-гадовага ўзросту. Гэта той узрост, калі ўжо шмат зроблена і яшчэ можна шмат зрабіць.

Мы віншуем спадара Алеся з юбілеем, дзякуем за зробленае для Беларусі і жадаем сілаў ды мужнасці ў яшчэ доўгім і нялёгкім змаганні за нашую мову і краіну.

***Сакратарыят ТБМ.***

# Абарона дысертацыі ў Санкт-Пецярбургу

17 чэрвеня 2003 г. на паседжанні дысертацыйнай рады пры Санкт-Пецярбургскім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў адбылася абарона доктарскай дысертацыі нашым земляком – дацэнтам кафедры музеязнаўства і экскурсіязнаўства Валянцінам Пятровічам Грыцкевічам, сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў, ганаровым сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў і старшынём Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Пецярбургу, сябрам Рады БНР.

Тэма доктарскай дысертацыі В. П. Грыцкевіча "Гісторыя музейнай справы (да канца XVIII ст.)" На гэтую тэму ён выдаў манаграфію і цэлы шэраг артыкулаў, а яго манаграфія выкарыстоўваецца як навучальны дапаможнік для студэнтаў і аспірантаў. Аўтар дысертацыі прадставіў глыбокае навуковае даследванне, у якім разгледжаны пытанні тэорыі і методыкі музеязнаўства, аналізуюцца гісторыяграфія і крыніцазнаўства гэтай навуковай дысцыпліны, прыведзена ўся сабраная ім навуковая літаратура, датычная гісторыі музейнай справы. Як належыць, зроблены абгрунтаваныя навуковыя высновы.

Рэцэнзенты адзначылі, што праца Вялянціна Грыцкевіча з'яўляецца першай, у якой абагульнены дасягненні ў гісторыі музеязнаўства ад даўніх часоў да пачатку XIX ст., а сама навуковая работа напісана лагічна і лаканічна.

Афіцыйнымі апанентамі на абароне дысертацыі выступілі вядомыя ў Расіі і замежжы вучоныя: дырэктар музею А. С. Пушкіна ў Санкт-Пецярбургу, доктар культуралогіі С. М. Някрасаў; вядомы археолаг і гісторык-арыенталіст, доктар гістарычных навук, прафесар В. М. Масон і дырэктар Эрмітажу, доктар гістарычных навук, прафесар М. Б. Піятроўскі. Апаненты высока ацанілі дысертацыю В.П. Грыцкевіча. Адбылася навуковая дыскусія, у якой прынялі ўдзел навукоўцы, як з Пецярбургкага універсітэта культуры, так і з іншых вышэйшых навучальных і навуковых устаноў Пецярбурга. Знешні водгук быў атрыманы са сталіцы, з Расійскага інстытута культуралогіі. Дысертант адказваў на некаторыя заўвагі, адстойваў свае навуковыя погляды. Дыскусія вялася на высокім навуковым узроўні. Дысертацыйная рада аднагалосна (21 чалавек) прыняла рашэнне аб прысуджэнні Валянціну Грыцкевічу вучонай ступені доктара культуралогіі па спецыяльнасці "Музеязнаўства, кансервацыя і рэстаўрацыя гістарычна-культурных аб'ектаў".

На паседжанні рады прысутнічала шмат сяброў Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Санкт-Пецярбургу, а таксама госці з Менска, якія ўдзельнічалі ў наступныя дні ў навуковай канферэнцыі "Санкт-Пецярбург і беларуская культура. Яны разам з калегамі В. П. Грыцкевіча віншавалі яго з паспяховай абаронай дысертацыі.


Валянцін Грыцкевіч

Працы Валянціна Грыцкевіча ў галіне музеязнаўства, як і ў іншых галінах навукі (гістарыяграфія, крыніцазнаўства і інш.) маюць значэнне і для развіцця навукі ў Беларусі, бо яны пішуцца беларускім (не толькі па паходжанні, але і па поглядах) навукоўцам і шмат у чым заснаваныя на беларускіх крыніцах. Яны, несумненна, будуць выкарыстаны беларускімі музеязнаўцамі і гісторыкамі, а таксама студэнтамі.

*Антон Выбранецкі.*

# Навуковая канферэнцыя ў Пецярбургу

У Санкт-Пецярбургу актыўна дзейнічае беларуская грамадскасць. У 1988 годзе было створана Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Санкт-Пецярбургу (БГКТ). Узначальвае яго гісторык і сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў Валянцін Грыцкевіч. Сябрамі Управы БГКТ з'яўляюцца доктар філалагічных навук Мікалай Нікалаеў і прафесар-музыколаг Ігар Маніеўскі. БГКТ працягвае беларускія навукова-культурныя традыцыі ў гэтым горадзе Расіі яшчэ з пачатку XX ст.

Доктар філалагічных навук Мікалай Нікалаеў, які з'яўляецца кіраўніком Санкт-Пецярбургскай асацыяцыі беларусістаў, пастаянна арганізоўвае навуковыя канферэнцыі "Беларусы ў Пецярбургу" з удзелам пецярбурскіх і замежных дакладчыкаў. У гэтым годзе Расійская нацыянальная бібліятэка і Санкт-Пецярбурская асацыяцыя беларусістаў 18-19 чэрвеня правялі ўжо 11-ю штогадовую канферэнцыю "Санкт-Пецярбург і беларуская культура", якая была прысвечана памяці старшыні Санкт-Пяцярбургскай асацыяцыі беларусістаў Аляксандра Сяргеевіча Мыльнікава, які нядаўна памёр. Менавіта выступам аб гэтым гісторыку і этнографе адкрыў канферэнцыю М.В. Нікалаеў.

У рабоце канферэнцыі пераважна прынялі ўдзел вучоныя з Пецярбурга, а таксама з Менска, Любліна, Кракава, Будапешта, Катавіцэ - усяго больш за 20 дакладчыкаў.

У дакладах пераважала беларуская тэматыка. Адначасова ў памяшканні Расійскай нацыянальнай бібліятэкі была разгорнута выстава рэдкіх кніг, фатаграфій і дакументаў з Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь пра беларускую прысутнасць у Пецярбургу ў XIX і XX стагоддзях. Так, сярод экспанатаў была кніга з аўтографам Віктара Каліноўскага, старэйшага брата Вікенція Канстанціна Каліноўскага. Шмат фатаграфій адносілася да перыяду Беларускага Адраджэння пачатку XX стагоддзя.

З дакладам "Навукова-культурныя асяродкі беларускай дыяспары" выступіў прэзідэнт МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" прафесар Анатоль Грыцкевіч. Дацэнт Санкт-Пецярбурскага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў Валянцін Грыцкевіч у дакладзе "Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Пецярбургу: 14 гадоў гісторыі" распавёў пра пачатак дзейнасці і гісторыю гэтага таварыства. Вядучы навуковы супрацоўнік Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, кандыдат гістарычных навук Віталь Скалабан прысвяціў свой даклад цікавай тэме "Петраградскі беларускі часопіс "Чырвоны шлях" як гісторыка-культурны феномен". Прафесар Тамара Міхайлаўна Смірнова з Пецярбурга (якая, дарэчы вучылася разам з В. Скалабанам у Ленінградскім універсітэце) выступіла з дакладам "Жыццё Петраграда на старонках мясцовай беларускай перыёдыкі"

Цікавым быў даклад дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганны Запартыкі "Асабістыя беларускія архівы ў Санкт-Пецярбургу" Навуковы супрацоўнік бібліятэкі Расійскай Акадэміі навук, кандыдат гістарычных навук Ірына Лебедзева выступіла з дакладам "Беларускі каляндар з асабістай бібліятэкі Пятра!" Прафесар з Любліна Рышард Радзік у сваім дакладзе гаварыў пра дзейнасць пецярбурскіх народнікаў-аўтараў беларускай нацыянальнай ідэі і пра часопіс "Гоман". Прафесар Андраш Золтак, загадчык кафедры ўсходнеславянскай і балтыйскай філалогіі універсітэта імя Л.Этвеша ў Будапешце гаварыў пра словы венгерскага паходжання ў старабеларускай мове.

Трэба адзначыць добрую арганізацыю канферэнцыі і магчымасць абмену думкамі падчас дыскусіі.

19 чэрвеня прэзідэнт "Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына Анатоль Грыцкевіч і старшыня БГКТ Валянцін Грыцкевіч з жонкай Людмілай наведалі мемарыял Левашоўская могілкі (ля чыгуначнай станцыі Левашова, на поўнач ад Пецярбурга), месца масавых растрэлаў палітзняволеных ў 1937-1938 годах. Да металічнага крыжа з надпісам "Беларусь-Lietuva", устаноўленага разам беларускай і літоўскай нацыянальнымі суполкамі ў Санкт-Пецярбургу дзесяць гадоў таму назад, былі ўскладзены кветкі і прагучалі памінальныя словы. Памінальны звон, устаноўлены ў пачатку мемарыялу, таксама адгукнуўся ў памяць расстраляных.

Левашоўскія могілкі абгароджаныя высокім плотам, дагледжаныя дзяржавай (ёсць і дырэкцыя, працуюць і рабочыя) і, перш за ўсё, нацыянальнымі суполкамі Пецярбурга і мясцовымі суполкамі расійскай грамадскай арганізацыі "Мемарыял". Стаяць сімвалічныя помнікі, крыжы, на дрэвах прымацаваныя медальёны з тварамі тых, хто загінуў падчас бальшавіцкага тэрору. Помнікі пастаўлены нацыянальнымі суполкамі з тэкстамі на розных мовах.

Левашова, якое называюць "ленінградскімі Курапатамі", з'яўляецца ўзорам увекавечвання памяці пра тых людзей, якіх знішчыла нялюдская антыбеларуская ўлада.

Для Беларусі настане дзень, калі і Курапаты стануць такім жа мемарыялам, які будуць ушаноўваць беларусы і беларуская ўлада.

*Анатоль Грыцкевіч,*
*прэзідэнт МГА*
*"Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".*
*22 чэрвеня 2003 г.*


Навстречу 300-летию Санкт-Петербурга

ПЕТЕРБУРГ МНОГОНАЦИОНАЛЬНЫЙ

У нас в гостях

№ 2 (апрель 2003)

Независимая газета питерских белорусов

РОДЗІЧЫ

*Газета пецярбургскіх беларусаў "Родзічы"*

# Краязнаўцы Віцебшчыны

З ініцыятывы старшыні Шаркаўшчынскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы Ады Райчонак у вёсцы Германавічы адбылася чарговая краязнаўчая канферэнцыя. Гэтую ініцыятыву падтрымалі ўсе краязнаўцы Віцебскага рэгіёну, а таксама фонд імя Льва Сапегі. Месца правядзення было абрана невыпадкова. Тут нарадзіўся і гадаваўся пісьменнік, этнограф і краязнавец Міхась Райчонак, памяці якога прысвячалася гэтае мерапрыемства. Жыццёвая сяжынка маладога творцы і грамадскага дзеяча абарвалася заўчасна, у 25-гадовым узросце. Міхась узначальваў Культурна-асветніцкі цэнтар імя Язэпа Драздовіча. Цяпер ягоную справу працягвае маці. Па запрашэнні Ады Райчонак з'ехаліся краязнаўцы амаль з усёй Віцебшчыны – Віцебска, Полацка, Глыбокага, Оршы, Пастаў, Мёраў, Браслава, Шаркаўшчыны. Удзельнікі наведалі магілу Міхася Райчонка, паглядзелі відэфільм пра яго дзейнасць "Душа баліць за Беларусь", адбылася прэзентацыя пасмяротнай кнігі апавяданняў "Як сын твой родны...", якая пабачыла свет, дзякуючы намаганням маці. З плёнам працы Міхася можна было больш грунтоўна пазнаёміцца па матэрыялах, паказаных на адмыслова аформленай выставе. Пра ўклад Міхася Райчонка ў краязнаўства згадвалі ўдзельнікі канферэнцыі ў сваіх выступленнях. З дакладамі выступілі: А. Куржалаў "Набыткі і праблемы школьнага краязнаўства Віцебшчыны", К. Шыдлоўскі "З досведу краязнаўчае працы на Браслаўшчыне", І. Пракаповіч "Стан і перспектывы краязнаўства на Пастаўшчыне", В. Бунта "Школьнае краязнаўства Браслаўшчыны: набыткі і праблемы", М.Баўтовіч "Вонкавыя кантакты клуба "Вытокі" (Полацк): станоўчы і адмоўны досвед". Прыемна адзначыць, што сярод удзельнікаў і дакладчыкаў канферэнцыі сябры і кіраўнікі структур Таварыства: У. Ляскоўскі "Шаркаўшчыне 500 гадоў", Т. Барткевіч "Пошукавая дзейнасць краязнаўчага гуртка "Маладзічок" (Глыбокае), Л. Гаравы "Выкарыстанне выхаваўчага патэнцыялу тарасазнаўства для гадавання нацыянальна свядомай моладзі" (Гарадок). Краязнаўцы Гарадоччыны працуюць сумесна з вядомым даследчыкам і навукоўцам Генадзем Кісялёвым. Яны правялі IV-я літаратурна-краязнаўчыя чытанні "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы", на якіх прыняты шырокія рэкамендацыі па вывучэнні, прапагандзе і ўшанаванні паэмы "Тарас на Парнасе", аўтар якой Канстанцін Вераніцын – ураджэнец Гарадоччыны.

На краязнаўчай канферэнцыі прысутнічалі госці з Менска. Скульптар Алесь Шатэрнік падараваў свой жывапісны твор з выявай Германавіцкага касцёла. Аляксей Марачкін прэзентаваў сваю аўтаманаграфію, а пісьменнік Уладзімір Арлоў новую кнігу "Ордэн белай мышы". Удзельнікі канферэнцыі мелі магчымасць наведаць і азнаёміцца з двума музеямі — школьным і музеем этнаграфіі імя Язэпа Драздовіча.

*І. Ляксеева.*

### *Паважаныя настаўнікі беларускай мовы Лідчыны*

Калі ў вас узніклі цяжкасці з працаўладкаваннем мы запрашаем 13, 20, 27 ліпеня а 18-й гадзіне на сустрэчы з прадстаўнікамі Лідскай арганізацыі ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" ў межах праекту "Развіццё мясцовых суполь-насцяў". Пра месца сустрэчы можна даведацца па тэл. 6-63-60, 2-75-73 ці ў рэдакцыі газ. "Наша слова".





# Фестываль сярэднявечнай культуры ў Нясвіжы

Дзеі фэсту разгорталіся на дзесяці пляцоўках. У праграму ўваходзілі бугурт (тэатралізаваны бой рыцараў) "Штурм замкавага бастыёна", бугурт для "славянаў і вікінгаў", бітва на вадзе "Ўзяцце Гібралтара" (улюбёная забава князёў Радзівілаў), дэманстрацыя рэканструкцыі сярэднявечнай бялізны, канцэрты сярэднявечнай і фальклорнай музыкі, відэапрэм'ера фільма "Анастасія Слуцкая", дэманстрацыя дакументальных фільмаў пра Нясвіж, фехтавальнае відовішча, верхавое шоў, дэманстрацыя рамёстваў і тэхналогій, сярэднявечная дыябетычная кухня, стралковы турнір лучнікаў і шмат інш.

Адкрываў фэст старшыня Нясвіжскага гарвыканкаму Ф. І. Прывалаў, які прамаўляў чамусьці на мове, якую ў сярэднія вякі ў Нясвіжы чулі толькі ад палонных. На чужой мове ішла і шоў-дэманстрацыя сярэднявечнай бялізны ад "Serge". Прысутнічаў на фэсце Міністр культуры Рэспублікі Беларусь С. П. Гуляка.

50 тысяч гасцей для 15-ці тысячнага Нясвіжа аказалася некалькі мнагавата, і некаторыя СМІ паспяшаліся выказацца, што мы яшчэ не гатовыя да такіх масавых відовішчаў. На гэта мушу заўважыць, што беларускія ўлады сапраўды не гатовыя, але не да відовішчаў. Яны не гатовыя да масавага росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў. Яны аднолькава негатовыя да тысяч на пахаванні Быкава і да дзесяткаў тысяч у Нясвіжы. З кожным годам яны будуць негатовыя ўсё больш.

А што да Нясвіжа, то ў яго ў запасе ёсць Альба (Гальба), загарадная рэзідэнцыя Радзівілаў з велізарнай лесапаркавай зонай, якая змесціць і сто тысяч, праўда работы там непачаты край, але прайшоўшы фэст ставіць Альбу на павестку дня.

*Яраслаў Грынкевіч.*



**Бюст Юрыя Нясвіжскага ў нясвіжскім Старым парку, тут жа знаходзяцца бюсты Мікалая Радзівіла Сіроткі, Яна Марыя Бернардоні, Томаша Макоўскага, Уладзіслава Сыракомлі і Якуба Коласа**



**Рыцарскі табар на фоне Нясвіжскага фарнага касцёла**



**Сярэднявечныя паненкі п'юць усявечны квас з аднаразавых руляк**



**Падчас фэсту кожны ахвотны мог паспрабаваць свае сілы ў двубоі з рыцарам. На здымку: шыракаплечы хлопец з гледачоў, на якога і "кальчужка то караткаватая" добра такі насядае на спрактыкаванага, але драбнаватага рыцара**



**Аладкі на кастры і без скаварады; аказваецца гэта так проста**



**Сучасны танец няблага атрымоўваецца і пад сярэднявечную музыку**

